


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

9 лістапада 2001 года

№ 45 (342)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Разгулялася стыхія

**СМАРГОНЬ**. На мінулым тыдні моцны вецер нанес урон эканоміцы раёна.

Асабліва пашкоджаныя жывёлагадоўчыя фермы. Усяго трэба ўзнавіць больш за тысячу лістоў шыферу. Сума ўрону – каля трох мільёнаў рублёў.

Найбольш пацярпелі калгасы "Савецкая Беларусь", "Расія", "Дружба народаў". У панядзелак прайшла аператыўная нарада ў старшыні райвыканкома, дзе ставілася задача як мага хутчэй узнавіць пашкоджаныя памяшканні.

**Тарэса КУМІШЧА.**

### Леанід Заяц ідзе на павышэнне

**МАЛАДЗЕЧНА**. 1 лістапада прэзідэнт краіны даў згоду на прызначэнне старшыні райвыканкома **Леаніда Зайца** на пасаду намесніка старшыні Мінскага аблвыканкома.

Цяпер выконвае абавязкі старшыні райвыканкома першы намеснік **Міхаіл Прыбалавец**.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Лекавыя травы з дома-інтэрната

**ВАЛОЖЫН**. Некалькі мільёнаў рублёў разлічвае атрымаць Івянецкі дзіцячы дом-інтэрнат у выніку продажу лекавых траў.

Прадукцыю, згодна з дагаворам, купіць прадпрыемства "Белфармацыя". Выхаванцы дома-інтэрната вырошчвалі зверабой (сёлета ўпершыню), мяту, мелісу і наготкі.

Ураджай склаў 70 кілаграмаў меліcы, па 50 кілаграмаў мяты і наготкаў і 30 кілаграмаў зверабою.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Тэрарызм дасягнуў Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА**. 1 лістапада, калі наша газета друкавалася, на адзін з прыватных адрасоў Маладзечна прыйшло пісьмо. Пры ўскрыцці адрасатам канверта там быў знойдзены светлы парашок.

У лабараторыі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі пасля даследавання змесціва канверта прыйшлі да высновы, што ўзбуджальнікаў асабліва небяспечных хвароб гэты парашок не ўтрымлівае. На паштовым штэмпелі пунктам адпраўлення значыцца Мінск. Міліцыя праводзіць следчыя дзеянні.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Адсвяткавалі датэрмінова

**ВІЛЕЙКА**. Па-гаспадарску паступілі ў Вілейцы. Гарадскія ўрачыстасці, прысвечаныя 7 лістапада, адзначылі на дзень раней. Балазе, што перадсвяточны рабочы дзень, як вядома, скарочаны. Паспелі і адпрацаваць, і кветкі да помніка Леніну ўскласці. Сёмага лістапада стаўся для віляйчан звычайным выхадным.

**Мікола ГАЙДУК.**

### Шандэровіч падаўся ў партызаны

**МЯДЗЕЛ**. У канцы кастрычніка ў раёне вяла здымкі група тэлеканала "ТВ-6". Здымалі партызанскія базы, там бралі інтэрв'ю ў народнага мсціўцы, аўтара "РГ" **Міхася Чарняўскага**. А ў мядзельскім музеі знялі макет зямлянкі з рэчамі той эпохі. Усё рабілася для фільма "Наш дом – СССР", першая серыя якога будзе прысвечаная Беларусі.

За вядучага ў фільме – вядомы сатырык і тэлевядучы Віктар Шандэровіч. Нягледзячы на яго імідж, фільм абяцае быць сур'ёзны, асабліва кпінаў у каментарыях заўважана не было.

Беларускую серыю фільма мяркуюць паказаць па "ТВ-6" у канцы снежня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 10 лістапада

**Мінск**
1 – 2°C (уначы)
7 – 8°C (удзень)



**Вільня**
3°C (уначы)
8°C (удзень)



Нядзеля, 11 лістапада

**Мінск**
1 – 2°C (уначы)
7 – 9°C (удзень)



**Вільня**
4°C (уначы)
10°C (удзень)



# Адваротны бок «Фестывальнага»

**МАЛАДЗЕЧНА. Чыгуначны прыпынак "Фестывальны" пабудавалі за рэкордныя тэрміны – у некалькі месяцаў.**

Жыхары горада здзіўляліся: "Могуць, калі захочуць". Прыпынак будаваўся цяжка, бо гэтае месца забалочанае. Не раз і не два адпампоўвалі ваду.

На ўзроўні цяпер і пад'язныя дарогі да прыпынку. З нічога зрабілі аўтастаянку, паклалі асфальт у бок шостага мікрараёна.

Але ёсць і адваротная дарога ад "Фестывальнага" – у бок раёна завода парашковай металургіі. Жыхарам гэтай часткі горада таксама выгадна з'яўленне чыгуначнага прыпынку: каб заехаць у бок Мінска, не трэба ісці праз увесь горад.

Але праблема з дарогай, асабліва ўвосень. Стала гразка. Даводзіцца людзям прымяняць ледзь не акабатычныя трукі, каб прайсці.

Здымак зроблены ў нізіне. Людзі вымушаныя скакаць з аднаго кола на другое – гэта адзіны шлях дадому.

Намеснік начальніка УКБ "Сэрвіс" **Міхаіл Журыха** ўчора паабяцаў выехаць на месца і пасля гэтага прыняць рашэнне аб добраўпарадкаванні дарогі да раёна "парашкоў".

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Маладзечна, 200 метраў ад чыгуначнага прыпынка «Фестывальны».**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Навошта вам Інтэрнэт?

Матэрыял "Віртуальны горад Маладзечна" чытайце на 2-й старонцы.



**Сяргей Баранаў, школьнік:**

– У Інтэрнэце ёсць шмат карыснай для мяне інфармацыі: рэфераты, хакерскія праграмы. Дома камп'ютэра няма, таму хаджу, у сярэднім, раз на тыдзень у Інтэрнэт-клуб. Сярэднія выдаткі за месяц – каля пяці тысяч рублёў.



**Раман Воўк, навучэнец:**

– У Інтэрнэце пабываў упершыню з паўгода таму, мы перапісваліся праз Інтэрнэт з нямецкімі сябрамі. Мне патрэбны Інтэрнэт, каб знайсці рэфераты і інфармацыю пра любімую музычную групу "Limp Bizkit".



**Святлана Сушчэня, дырэктар кніжнага магазіна "Спадчына".**

– Камп'ютэра дома няма, а на рабоце – стары. Таму Інтэрнэтам я ніколі не карысталася. Але калі некаторыя людзі ім займаюцца, то, значыць, Інтэрнэт патрэбны.



**Таццяна Гаўрылік, навучэнка гандлёва-эканамічнага каледжа:**

– Інтэрнэт патрэбны. Вось мой сябар скачваў адтуль матэрыялы для рэфератаў і курсавых. А я Інтэрнэтам не карысталася. Хоць інфарматыка ў школе і была, Інтэрнэт мы не вывучалі. У каледжы інфарматыку ляшчэ не праходзілі.



**Дзмітрый Кароль, інжынер-праграміст:**

– Усю інфармацыю бяру з Інтэрнэта. Кнігамі ўжо мала карыстаюся. Для мяне Інтэрнэт – гэта ляшчэ і работа. Зараз працую над сайтам Мінскага падшыпнікавага завода. Яшчэ я зрабіў афіцыйны сайт футбольнага клуба "Маладзечна-2000". Плануем адкрыць Інтэрнэт-магазін, каб кожны мог праз Інтэрнэт купіць, напрыклад, сувеніры з сімволікай клуба.



**Вадзім Зубрыцкі, студэнт 5 курса геафака БДУ:**

– Інтэрнэт для мяне – гэта электронная пошта. Мы маем добрыя зносіны са студэнтамі-географамі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яшчэ шукаю ў Інтэрнэце інфармацыю па тэме маёй навуковай работы, падтрымліваю сувязі з аднакласнікамі, якія вучацца за межамі краіны, маю доступ да сродкаў масавай інфармацыі.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ІНТЭРНЕТ

# Віртуальны горад Маладзечна

**Віртуальнасць – уяўнасць, існаванне ненасамрэч – не такая ўжо і нерэальная штука. У гэтым пераконваецца той, хто працуе (адпачывае) у Інтэрнеце. Пра гэта гутарка з начальнікам Маладзечанскага раённага вузла электрасувязі Леанідам Валатовічам.**

**– Леанід Мікалаевіч, з'яўляюцца новыя тэхналогіі, якія не абыходзяць і сувязь. А што для вас уяўляе сабой Інтэрнет?**

– Новая паслуга, якую мы можам аказаць. Каля года таму мы далі магчымасць нашым кліентам заходзіць у Інтэрнет па беспарольным выхадзе, а яшчэ да гэтага маладзечанцы маглі карыстацца парольным выхадам.

**– А хто займаецца ў вас Інтэрнетам? Ёсць для гэтага спецыяльная служба?**

– Вытворчая лабараторыя. Яна існуе спецыяльна для работы з новымі тэхналогіямі, сярод якіх і Інтэрнэт. Для нас сёння гэта праблема зусім не тэхнічная. Больш складаная задача прыцягнуць да карыстання сеткай нашых вытворцаў, прадпрымальнікаў, супрацоўнікаў грамадскіх арганізацый. Растлумачыць ролю інфармацыйных тэхналогій ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства і эканомікі, культуры, палітыкі і паўсядзённага жыцця людзей.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.
Начальнік Маладзечанскага раённага вузла электрасувязі Леанід Валатовіч яшчэ карыстаецца тэлефонам. Але будучае бачыць за Інтэрнэтам.

**– Ці вылучаецца чым горад Маладзечна ў Інтэрнет-прасторы?**

– Маладзечна мае сваё даменнае імя www.molodechno.by і афіцыйны сайт. Нямногія беларускія гарады могуць пахваліцца гэтым. У нас збіраецца інфармацыя пра жыццё горада, ствараюцца базы дадзеных па прадукцыі маладзечанскіх прадпрыемстваў. Карацей – віртуальны горад.

**– Але ж твар горада не толькі яго афіцыйны сайт, але і Інтэрнет-старонкі прадпрыемстваў, прыватных асоб, СМІ?**

– Так. Ёсць сайты завода парашковай металургіі, "Спадарожніка", вашай газеты, некаторых камерцыйных структур. Таксама ёсць інфармацыйныя рэсурсы даведачнай службы тэлефонаў 09, клуба знаёмстваў.

**– Наколькі сур'ёзная памылка тых кіраўнікоў, хто не зважае на Інтэрнет?**

– Вельмі сур'ёзная. І наша задача – прышчапіць пачуццё неабходнасці кліенту гэтага самага Інтэрнета. Сёння каля 120 прадпрыемстваў Маладзечна "ходзіць" у Інтэрнет, каля 500 кватэрных абанентаў працуюць з Інтэрнетам.

А папулярызуем мы сусветнае павуціннe праз Інтэрнет-клуб. Мяркуем правесці семінар па Інтэрнеце для кіраўнікоў маладзечанскіх прадпрыемстваў, усіх жадаючых. Запрашаем наведаць наш клуб для бліжэйшага знаёмства.

**– Занятак Інтэрнетам вам эканамічна выгадны?**

– Безумоўна. Гэта перспектыўны напрамак. І нам ідзе насустрач Белтэлекам у тым, каб мы пашыралі свае паслугі. Шкловалаконная лінія і лічбавая тэлефонная станцыя з'яўляюцца асноўнымі тэхнічнымі сродкамі для доступу ў сетку Інтэрнет, а гэта ў нас усё ёсць. Мы ж і самі актыўна працуем, каб кліент быў задаволены. Але не менш важна і разуменне кліентам карысці ад Інтэрнета. Адна з акцый, якая можа патлумачыць агульную карысць ад Інтэрнета на прыкладзе нашага сайта, – мы ствараем даведачную базу па гарадскіх прадпрыемствах. І калі вам патэлефануюць з вузла сувязі з пытаннямі пра ваш бізнес, выкарыстайце свой шанц. А можаце і самі патэлефанаваць на нумар 62799 або зайсці на www.molodechno.by.

Гутарыў **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**
regionnews.promedia.minsk.by

■ ТЭАТР



Фота з архіва тэатра.
Акцёры Мінскага абласнога драматычнага тэатра Таццяна Грасевіч і Барыс Донін у спектаклі "Апошняя ахвяра".

## «Апошняя ахвяра»

Спектакль, які ідзе на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне, варты глядацкай увагі ўжо нават таму, што пастаўлены народнай артысткай Беларусі **Марыяй Захарэвіч.**

Дакладна вывераныя мізансцэны, адносіны паміж персанажамі, цікавыя акцёрскія работы і, зразумела, драматургія А. Астроўскага – усё гэта, несумненна, не пакідае гледача абыякавым і дае надзею на тое, што спектакль яшчэ не адзін год будзе ў рэпертуары тэатра.

У аснове спектакля – камічная сітуацыя выбару паміж шчасцем і грашыма, каханнем і здрадай.

**Віктар МІКАЛАЕЎ.**

■ МЕДЫЦЫНА

## Пра сумесныя роды і не толькі

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у раддоме нарадзілася дзяўчынка, пры з'яўленні якой прысутнічалі не толькі маці і медперсанал, але і бацька.**

Увогуле, за мінулы час выказалі жаданне аб сумесных родах 15–20 пар. Але не для ўсіх нараджэнне дзіцяці – чаканая радасць. Ёсць жанчыны, якія адмаўляюцца ад дзіцяці, пакідаючы яго ў радзоме. У гэтым годзе такімі зязюлямі сталі 4 жанчыны, адна з якіх адумалася праз два дні і забрала дзіця. Усе яны тлумачылі свае ўчынкі цяжкім матэрыяльным становішчам. Але большасць жанчын стала адмаўляцца ад абортаў. Дзякуючы ультрагукаваму апарату і гістэраскапіі (працэдура, пры якой магчыма агляд жаночых органаў знутры), удаецца пазбегнуць дзіцячых паталогій. Галоўны ўрач раддома **Аляксандр Лавіт** сказаў, што тут няма платных палат, як у некаторых клініках сталіцы. Папершае адсутнічаюць свабодныя плошчы, па-другое, прыкладны кошт паслуг будзе каля 300 долараў і, на ягоную думку, гэта будзе нерэнтабельна.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КОНКУРСЫ

## Дзіця – дар прыроды

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзіцячы садок №25 – экалагічны. Магчыма, гэта перадвызначыла тое, што тут прайшоў фотаконкурс "Дары прыроды". Падвodзілі вынікі ў мінулую пятніцу.**

На фотаздымках, аўтары якіх бацькі, – іхнія дзеткі і дары, якімі нас надзяліла восень.

Ідэя конкурсу нарадзілася сярод работнікаў садка. Заставалася толькі арганізаваць яго. Выстаўляліся работы памерам 20х40 сантыметраў. Цікаўных, асабліва сярод герояў здымкаў, было шмат. А аўтарытэтнае журы, у склад якога ўвайшоў наш пазаштатны фотакарэспандэнт **Яўген Стэльмах**, дапамагло вызначыць месцы.

Першае месца было за здымкам, дзе ўсміхаецца **Іра Кізіцкая** (аўтар – мама), другое, дзе героем **Ігар Грудзінскі**, трэцяе – **Максім Крук.**

Пераможцаў адзначылі падарункамі ад раённага й інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя: фотастужкамі, фотаальбомамі, кніжкамі-размалёўкамі.

**Мікола ГАЙДУК.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.
Каця Кізіцкая на здымку і ў жыцці.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.
Хто гэта? Дзеткі разглядаюць конкурсныя работы і знаходзяць знаёмых, сябе.



■ ПРЫЗНАЧЭННІ

## Новы кіраўнік сельсавета

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 лістапада ў Чысцінскім сельскім савеце пачаў працаваць новы кіраўнік Генрых Кутас.**

Ён нарадзіўся ў 1972 годзе ў Ілы, на Вілейшчыне. Мае вышэйшую эканамічную адукацыю, апошняе месца работы – інспекцыя дзяржаўнага падаткавага камітэта. Былы старшыня **Міхаіл Полушкін** цяпер працуе на АТ "Забудова" намеснікам генеральнага дырэктара па кадрах.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Новы галоўны ўрач

**МАЛАДЗЕЧНА. 6 лістапада прызначаны новы галоўны ўрач Чысцінскай палiклінікі – Іван Лазарэвіч.**

Ён нарадзіўся ў 1952 годзе ў Навагрудскім раёне. Скончыў Гродзенскі медінстытут. Апошняе месца работы – галоўны ўрач участковай бальніцы ў Лідскім раёне. Былы галоўны ўрач **Валянціна Чарных** пайшла па ўласным жаданні працаваць у тэрапеўтычнае аддзяленне Чысцінскай бальніцы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Матацыкл збіў веласіпедыста

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 лістапада матацыкліст наехаў на веласіпедыста, які ехаў па правым краі праезнай часткі.**

Ён атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму, страсенне мазгоў, раны цемяннай вобласці галавы. 5 лістапада работнікі ДАІ ўстанавілі асобу матацыкліста. Яго затрымалі, вядзецца следства.

**Уладзімір ЛУКАШЫК,** інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечанскага ГРАУС.

## У Мядзеле патрашылі машыны

**МЯДЗЕЛ. У пяць гадзін раніцы 1 лістапада ў райцэнтры затрымалі жыхара Маладзечна з адмычкамі і запчасткамі да аўтамабіля.**

Высветлілася, што разам з яшчэ двума маладзечанцамі ён прыехаў у Мядзел, і група ўзялася патрашыць аўтамашыны. Бралі, у асноўным, магнітолы, злівалі і бензін. Зафіксавана больш за 10 выпадкаў крадзяжоў. А саўдзельнікаў злоўленага ў Мядзеле затрымалі потым у Маладзечне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# «Рыначнае» ПТВ-200

**ВІЛЕЙКА. У мясцовым ПТВ-200 вучыцца моладзь з Маладзечна, Маладзечанскага, Смаргонскага, Мядзельскага і Вілейскага раёнаў.**

ПТВ-200 створанае ў кастрычніку 1953 года. Называлася Вілейскім сельскім прафесійна-тэхнічным вучылішчам №16. У ПТВ-200 перайменаванае ў жніўні 1984 года. Яно рыхтуе спецыялістаў для сельскай гаспадаркі па спецыяльнасцях: майстар сельскагаспадарчай вытворчасці, трактарыст-машыніст, гаспадыня сядзібы, цырульнік, кравец, вадзіцель аўтамабіля. Бліжэйшае падобнае – у Свірскім №207 у Камарове, што на Мядзельшчыне.

Дырэктар ПТВ-200 **Міхаіл Літвіновіч** гаворыць, што Вілейскаму раёну не зусім выгадна, што тут вучацца людзі з іншых раёнаў, бо потым гэтыя спецыялісты едуць працаваць да сябе на радзіму.

Недахопу ў навучэнцах таксама не адчуваюць. Сёлета набралі ў некаторыя групы па 30 чалавек замест традыцыйных дваццаці пяці. Навучанне для ўсіх бясплатнае. ПТВ імкнецца рыхтаваць навучэнцаў для самастойнай работы. Некаторыя ўладкоўваюцца працаваць за мяжу. Адзін вадзіцель працуе ў ЗША.

Сельскагаспадарчы накірунак вучылішча адбіваецца на яго жыцці. Ёсць свая вучэбная гаспадарка. Тут навучэнцы і практыку праходзяць, і адначасова вырошчваюць збожжа і бульбу, даглядаюць скаціну. Ды і грошы зарабляюць. Лішак сельскагаспадарчай прадукцыі вучылішча прадае.

Сельскагаспадарчая тэхніка таксама не прастойвае.


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Другакурсніца Вікторыя Самойліна вучыцца рабіць прычоскі на сваёй аднакурсніцы.**

– Калі б не нашыя камбайны, то ўсе навакольныя вёскі плакалі б, – заўважыў дырэктар.

Астатнія спецыяльнасці таксама зарыентаваныя на тое, каб зарабляць грошы. Вучылішча аказвае разнастайныя паслугі насельніцтву.

Грошы ідуць на мадэрнізацыю абсталявання, паліва для машын і камбайнаў таксама трэба купляць.

Праблема толькі, што тэхніка маральна і фізічна зношваецца.

– Але гэта праблема не толькі вучылішча, але і краіны, – сказаў намеснік дырэктара ПТВ-200 па выхаваўчай рабоце **Ігар Кіцікаў**.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Каб атрымаць прафесію трактарыста-машыніста шырокага профілю, Уладзіміру Зянкевічу трэба і за партай пасядзець.**






**Алена Сідаровіч атрымае дыплом аб заканчэнні вучылішча наступнай вясной. Між іншым, яна вучыцца на "выдатна".**

## Курсы валют НБ РБ

| | 1 лістапада | 8 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1510,00 руб. | 1516,00 руб. |
| Нямецкая марка | 698,86 руб. | 695,67 руб. |
| Літ | 377,58 руб. | 379,05 руб. |
| Расійскі рубель | 50,88 руб. | 51,08 руб. |
| Злоты | 368,76 руб. | 370,34 руб. |
| ЕЎРА | 1366,85 руб. | 1360,61 руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1510 – 1530 руб. | 1510 – 1530 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 31.10 | 6.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8250 | 7800 |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | 3180 |
| Селядзец, 1 кг | 1850 | 1870 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 450 | 420 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1060 | 1160 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 790 | 790 |
| Маянэз, 200 г | 270 | 270 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | 1700 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | 550 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 470 | 480 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 280 | 300 |
| Капуста, 1 кг | 130 | 160 |
| Лімоны, 1 кг | 1400 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1280 | 1200 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1300 |
| Масла, 1 кг | 2600 | 3000 |
| Тварог, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Малако, 1,5 л | 450 | 450 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 1400 | 1400 |
| Морква, 1 кг | 300 | 250 |
| Яблыкі, 1 кг | 150 | 250 |

■ ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Сацыялагічны лахатрон

**МАЛАДЗЕЧНА. Напачатку кастрычніка на вуліцах Маркаўскай і Драздовіча правodзілася "сацыялагічнае" даследаванне.**

Добра апрануты малады чалавек хадзіў па кватэрах і пытаўся, як жыхары ставяцца да таго, каб у іх раёне адчынілі новы ўніверсам. Жыхары, вядома, згаджаліся. Тады малады чалавек аб'яўляў, што яны, маўляў, у ліку трох іншых прэтэндэнтаў выйгралі прыз!

Гэты прыз – электрастымулятар (у шапіку я яго бачыў за 3800 рублёў) прызнаваўся надзвычай каштоўным і аддаваўся шчасліваму ўладальніку "усяго" за... 30000 рублёў, праўда, у дадатак "бясплатна дарыліся" крэм ад радыкуліту і самыя танныя электронны гадзіннік і парасон. У выніку чыстага прыбытку малады чалавек меў, прыкладна, 15000 "з носа".

Людзі ў нас даверлівыя і асабліва ахвочыя да халявы. Таму такія "даследаванні народнай думкі" могуць адбыцца ў любым населеным пункце рэгіёна. Так што будзьце пільныя.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## Дзве абласныя прэміі

**СМАРГОНЬ. Адразу дзве абласныя прэміі атрымаў на мінулым тыдні раён па сельскагаспадарчых паказчыках.**

За першае месца па колькасці прадукцыі, атрыманай за летні сезон, раён прэміраваны 300 мінімальнымі зарплатамі.

А за першае месца па падрыхтоўцы да зімы раён атрымаў трактар МТЗ-82. Яго перададуць у калгас імя Дзяржынскага, дзе падрыхтоўка да зімы наладжаная лепш, як у іншых калгасах раёна.

Прэміі выдзеленыя рашэннем аблвыканкома на абласной нарадзе, якая прайшла ў Навагрудку.

**Тарэса КУМІШЧА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Фальшыўка ў Мядзеле

**МЯДЗЕЛ. Напрыканцы кастрычніка тут выяўленая фальшывая 100-доларавая купюра. Прынеслі яе проста ў абменны пункт "Беларусбанка".**

Касірка выклікала міліцыю. Уладальнік купюры тлумачыў, што "зялёныя" набыла сястра ў невядомага на Камароўцы, а ён у валюце не вельмі разбіраецца. Купюру канфіскавалі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Рынак на Гагарына адкрыюць вясной

**ВІЛЕЙКА. У кастрычніку рашэннем райвыканкома зачыненае месца выязнога гандлю па вуліцы Гагарына. Гэта быў міні-рынак на некалькі дзесяткаў гандлёвых месцаў.**

Былы дырэктар **Анатоль Аржанік** расказаў, што паступалі скаргі ад жыхароў дома па вуліцы Гагарына, 12, корпус 2, але большая частка насельніцтва была супраць закрыцця. Ён выказаў меркаванне, што гэтае месца складала каму-небудзь сур'ёзную канкурэнцыю.

Штомесяц на рахунак фінансавага аддзела райвыканкома паступала 675 тысяч рублёў, ды яшчэ кожны плаціў падаткі ад 50 умоўных адзінак і вышэй (у залежнасці ад віду тавару, якім гандляваў). Цяпер прадпрымальнікі перасяліліся хто куды: на рынку райспажыўтаварыства штодзень стаіць 6–10 палатак. Дырэктар рынку **Валянціна Кудзіна** гаворыць:

– За месяца яны плацяць па 1200 рублёў у дзень. Недалёка ёсць тры навучальныя ўстановы, таму большасць пакупнікоў – навучэнцы. Адпаведна, гандлёвы "бум" тут у панядзелак, калі ў большасці іншагародніх ёсць грошы. Заходзяць на рынак і жыхары бліжэйшых дамоў. Ім выгадна, што сюды пераехалі палаткі, – не трэба за любой пакупкай ісці ў цэнтр горада. Хаця для прадпрымальнікаў, што гандлююць на рынку, лепш гандляваць на вуліцы Гагарына, бо ў тым раёне жывуць каля 13 тысяч жыхароў – больш за трэць Вілейкі. Пасля закрыцця пачалася рэканструкцыя рынку.

Загадчык гандлёвага аддзела райвыканкома **Аляксандр Корсак** расказаў:

– Семнадцаць прадпрымальнікаў, якія гандлявалі да закрыцця, па індывідуальных праектах ставяць ларкі. Разам з імі добраўпарадкаваннем займаецца і Дзяржаўнае вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі (ДВА ЖКГ). Будаўнічыя работы фінансуюцца часткова бюджэтам, часткова прадпрымальнікамі. Адно гандлёвае месца каштуе ад 600 да 700 умоўных адзінак. Памер падаткаў штомесяц будзе 100 тысяч рублёў, ніякіх скідак за тое, што яны дапамагаюць у будаўніцтве, не будзе. Выкананне работ залежыць ад жадання прадпрымальнікаў. Пабудавалі каркасы, а як толькі пакладуць пліты, адразу паставяць ларкі. Чым мы горшыя за Маладзечна, дзе ёсць нармальна абсталяваныя гандлёвыя месцы!

А загадчыца аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва райвыканкома **Галіна Кажарновіч** адзначыла, што галоўнай мэтай рэканструкцыі з'яўляецца замена палатак стацыянарнымі гандлёвымі пунктамі.

– Мы будзем выкарыстоўваць самыя сучасныя матэрыялы і пабудуем зручныя пад'езды для аўтатранспарту.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ МЕРКАВАННЕ

## Пра мову і не толькі

У 1990 годзе, яшчэ падчас кіравання камуністычнай партыі, тагачасны Вярхоўны Савет прыняў закон аб беларускай мове. У гэтым дакуменце на працягу 10 год прадугледжвалася паступовае негвалтоўнае ўкараненне яе ў грамадства. Здаецца, ён быў распрацаваны такім чынам, што не мог мець пярэчанняў як з боку карэнных жыхароў Беларусі, так і іншых народаў, якія жывуць у нашай краіне. Па меркаванні пісьменніка **Васіля Быкава**, за такі тэрмін і пры такіх умовах можна было б вывучыць не толькі беларускую, але нават і японскую мову. Аднак атрымалася інакш.

Не буду казаць пра змяншэнне колькасці беларускамоўных школ і класаў (яно ўжо нагнала аскому), не гаворачы ўжо пра ўжыванне роднай мовы ў вышэйшых навучальных установах і справаводстве.

Прынамсі, я не ведаю, каб яно вялося ў якой-небудзь установе ў нашым Маладзечне. Нават аб'явы на аўтавакзале, які славіўся сваёй беларускасцю, цяпер не заўсёды робяцца на роднай мове. Што тычыцца беларускамоўных шыльдаў, то, каб іх пералічыць, напэўна, хапіла б пальцаў адной рукі. Нават у такіх краінах, як Францыя і Германія, дзе нішто не пагражае знікненню роднай мовы, заканадаўча аформленыя акты, якія супрацьдзейнічаюць пранікненню іншаземнай абрэвіятуры ў надпісах на рэкламных шчытах, фасадах прадпрыемстваў і ўстаноў.

Асабліва бязглуздым выглядае афармленне нашых спажывецкіх тавараў. Мяркую, што любы выхадзец з былога СССР, хоць і праз літару **і**, распазнае на нашых прылаўках беларускі кефір альбо малако і піва праз літару **а**.

Асабліва вызначыўся Маліноўшчынскі спіртагарэлачны завод, які не толькі цураецца роднай мовы, але, мяркуючы па наклейках на бутэльках, перайменаваў спрадвечную назву вёскі Маліноўшчына ў Малінаўшчызну. Смешна выглядае, з аднаго боку, рускамоўны надпіс маладзечанскай вуліцы "Велики Гостинец", з другога боку – абоі (бел. шпалеры) па-беларуску. І такіх моўных недарэчнасцяў вельмі і вельмі шмат. Адкуль жа такая непавага да адной з самых мілагучных моў у свеце, мовы, на якой больш за 600 год таму была напісаная адна з першых еўрапейскіх канстытуцый – Статут Вялікага княства Літоўскага?

Няўжо яна вартая гэтага?

**Алесь ЦАДКО, сябра ТБМ імя Францыска Скарыны.**

# Ігнат Ходзька памаладзеў

На старонках "Рэгіянальнай газеты" неаднаразова падымалася тэма жыцця і творчасці выдатнага пісьменніка XIX стагоддзя, нашага земляка **Ігната Ходзькі**. Вілейскія краязнаўцы знайшлі месца, дзе некалі была радавая сяліба Ходзькаў Дзевятні, прыведзеная ў належны стан сямейная грабніца на мястэчковым могільніку ў Войстаме. У дзень нараджэння паэта, 29 верасня 1999 года, сумесна з вучнямі і настаўнікамі мясцовай школы адзначаныя 205-я яго ўгодкі. "Беларускі кнігазбор" рыхтуе да выпуску кніжку з творамі І. Ходзькі. Адводзіцца яму месца і ў кнізе "Памяць. Вілейскі раён". Здаецца, у справе ўстанаўлення ісціны з Ігнатам Ходзькам усё становіцца на сваё месца.

Аднак нядаўна мне трапіў у рукі цікавы дакумент: "Выпіс з метрычнай кнігі аб нарадзіўшыхся па Касцяневіцкім касцёле за 1796 год".

Вось які запіс з яе выклікае асаблівую цікавасць.

В. Заблошчына. 15 студзеня 1796 г. ахрышчана дзіця трыма імёнамі – Ігнат Францыск Міхаіл, якое нарадзілася 17 верасня 1795 года ў законных сужанцаў высакародных Антонія Ходзькі, будаўнічага Завілейскага павета (існаваў у 1791–93 гадах цэнтр г. Паставы, у 1795–1842 – цэнтр г. Свянцяны, з 1843 г. перайменаваны ў Свянцянскі – А. Р.) і Кацярыны з Відмантаў. Хросныя: Міхаіл Ходзька – войскі завілейскі, з Дзевятнёў, з Барбарай Козел, маршалковай Мінскай губерні.



Рэпрадукцыя з кнігі "Живописная Россия". С.п.б., 1882 г.

**Сябры і паплечнікі Адама Міцкевіча (у цэнтры). Ігнат Ходзька – правы ў другім радзе зверху. Пад партрэтам Ігната Ходзькі, праваруч Міцкевіча, Антоні Адынец.**

Асістэнты: Юзаф Калісанцы Козел, з Княгініна з Антанінай Крываблоцкай з Сэрвачы, Стэфан Каверскі з Сухога Бора Даўгінаўскай парафіі з Людвікай Радзевіч з Княгініна, Юстын Нарушэвіч з Сэрвачы з Канстанцыяй Ходзька з Крывічэй, Ян Ходзька з Крывічэй з Калумбай Рагозінай з Сэрвачы.

Метрычная кніга – гэта адзіная кніга для афіцыйнай рэгістрацыі актаў нараджэння, шлюбу, смерці, і не верыць ёй нельга.

Дагэтуль датай нараджэння Ігната Ходзькі лічылася 29 верасня 1794 года. Яна прыведзеная ў многіх літаратурных творах, энцыклапедыях, нават на магільным помніку выкананы наступны надпіс на польскай мове. Вось яго тэкст, перакладзены на беларускую мову.

Ігнат Ходзька

Аўтар абразкоў Літоўскіх

Нар. 29 верасня 1794 г. Памер 1 жніўня 1861 г.

Далей ідзе эпітафія.

"Зямляк, ушануй гэты помнік! Бо пад ім спачывае Вяшчун і мастак дабрачынны айчыны – настаўнік Літвы;

І калі ў душы тваёй голас яго да сябе падзывае,

Ты з набожнаю вераю продкаў прачытаеш свае малітвы" (пераклад вольны А. Р.).

Аўтар эпітафіі – даўні сябар і швагер яго Антоні Адынец. У недалёкім ад Дзевятнёў маёнтку Рускае Сяло у сям'і адстаўнога капітана Мацкевіча раслі некалькі прыгажуньдачок. Старэйшая, Людвіка, стала ў 1825 годзе жонкай Ігнація. Гэта ёй вялікі Адам Міцкевіч прысвяціў верш "Далёкай незнаёмцы". Другая сястра, Зоф'я, пазней стала жонкай Адынца. Адну з гераінь свайго "Пана Тадэвуша" А. Міцкевіч у яе гонар назваў Зосяй. Трэцяя сястра, Роза, стала жонкай яшчэ аднаго сябра Ходзькі – перакладчыка Юльяна Корсака.

Але ў чым жа прычына такога разыходжання дат?

Пасля 10 год навучання ў Барунскай базыльянскай школе і Віленскім універсітэце, па заканчэнні якога І. Ходзька атрымаў вучоную ступень кандыдата філасофіі, ён нечакана ў 1814 годзе застаўся круглым сіратой пасля заўчаснай смерці бацькоў. Апякаць яго ўзяўся родны дзядзька, Ян Ходзька, тагачасны ўдзельнік культурна-асветніцкага жыцця ў Мінску і пісьменнік, больш вядомы як "Пан Ян са Свіслачы". Ён сам у 17-гадовым узросце таксама застаўся без бацькоў і вымушаны быў самастойна весці спадчынную гаспадарку, на што меў дазвол спецыяльнага пасяджэння польскага сейма. Магчыма, каб хутчэй атрымаць самастойнасць, Ігнат па парадзе дзядзькі і дадаў сабе адзін год з некалькімі днямі. Тым больш, што пасля Айчыннай вайны 1812 года зрабіць гэта, думаецца, было няцяжка.

Аднак справядлівасць, у рэшце рэшт, павінна ўзяць верх і ў новых выданнях, прысвечаных жыццю і творчасці Ігната Ходзькі, дзень і год нараджэння яго адпавядаць сапраўднаму.

**Анатоль Р ОГАЧ, Вілейка.**

# Юльян Сергіевіч

23 жніўня 1943 г. мінская афіцыйная *Беларуская газэта* змясціла артыкул "Для Цябе, беларускі народ! Малады паэта Юльян Сяргіевіч". Аўтар артыкула пад крыптонімам Я.Ш. пісаў: *"На Бацькаўшчыне зусім малаведамы малады беларускі песьняр Юльян Сяргіевіч, паэтычны талент якога асабліва выявіўся апошнімі гадамі на балонах Бэрлінскае беларускае газэты "Раніца". І з выгляду, і з усяго духовага складу паэта – тыповая беларуская натура. Ціхі, сьціплы, непрэтэнцыёзны, удумлівы з гарачай патрыятычнай і палкай душой, грамадзкі, ідэёвы. Належыць да катэгорыі людзей, што свае прыродныя здольнасьці самаасьветай, упорыстай працай над сабою разьвілі й разгарнулі ў службе дарагой справы Беларусі, ейнае культуры і маюць ужо немалые дасягненьні".*

Там жа ў нумары была надрукаваная нізка вершаў паэта, сярод якіх верш-песня "Мы выйшлі із цемры мінулага веку", на матыў "Ад веку мы спалі" (беларускай "марсельезы").

*Мы выйшлі ізь цемры*
*мінулага веку,*
*Пазналі, што трэба рабіць,*
*Што трэба свабоды,*
*зямлі чалавеку,*
*У змаганьні дзяржаву здабыць.*

*Што гэта за марная доля*
*такая –*
*Для нечай карысьці працуй.*
*На нашых абшарах*
*чужынец гуляе,*
*А ты ў родным краі гаруй.*

*Даволі служыць,*
*пакарацца прыблудам,*
*За крыўду панамі іх зваць –*
*Мы доўга цярпелі,*
*цярпець больш ня будзем*
*Пайдзем лепшай долі шукаць.*

*Палямі, лугамі*
*прылучацца з намі*
*Грамадна рады Крывічоў*
*Мы дружна паўстанем*
*з касамі, сярпамі*
*Прагонім зь зямлі палачоў!*

*Сьляды паняверкі, няволі,*
*прынукі*
*Затопча Вялікі Паход*
*І злуча ў працы свабодныя рукі*
*Увесь беларускі народ!*

Верш, прасякнуты выразным нацыянальна–патрыятычным зместам, паставіў у нумар тагачасны рэдактар **Антон Адамовіч**. Нямецкая цэнзура напачатку прапусціла верш (ды і хто з іх ведаў беларускую мову?), аднак нейкі пільны беларус-прапагандыст, што скончыў адпаведныя курсы ў Берліне, угледзеў крамолу: *Мы дружна паўстанем з касамі, сярпамі прагонім зь зямлі палачоў!* І данёс у СД.

Немцы агледзеліся. Адамовічу прапанавалі пакінуць Мінск, а калі ён адмовіўся, то праз нейкі час знайшоў у сваім пісьмовым стале міну. Паліцыянт-фольксдойч, што выносіў міну, ад выбуху быў разарваны на кавалкі. Адамовіч пакінуў Беларусь, з'ехаўшы ў Берлін, дзе працаваў Юльян Сергіевіч.

Імя Юльяна Сергіевіча доўгі час было пад замкам забыцця. А між іншым, ягонае жыццё – зламаны лёс беларускага інтэлігента. Яскравы прыклад таго, як карае Савецкая дзяржава за "грахі" маладосці.

Нарадзіўся Юльян Сергіевіч 5 жніўня (па іншых звестках, 23 верасня) 1910 г. у в. Юраўшчына Беніцкай воласці тагачаснага Ашмянскага павета (сённяшні Маладзечанскі раён) у беднай сялянскай сям'і. Чатыры гады (1921-1924) правучыўся ў пачатковай школе ў суседняй Ленкаўшчыне, у якой спачатку трывала вялося беларускамоўнае навучанне, а пасля рэформы 1924 г. школа была перароблeная на польскую.

Ягоным *настаўнікам* быў малады **Мікола Абрамчык**, будучы беларускі палітык на эміграцыі і прэзідэнт Рады БНР (1947-1970). Напэўна, Абрамчык паўплываў на фарміраванне нацыянальнага светапогляду хлопца, якому ад беднасці давялося кінуць школу і дапамагаць бацькам па гаспадарцы. У 1932 г. ён быў прызваны ў войска, аднак з-за слабага здароўя праз некалькі месяцаў быў камісаваны і з белым білетам вярнуўся дахаты.

Сергіевіч сачыў за нацыянальным кнігадрукам, выпісваў беларускія газеты, пісаў вершы. Ягоны першы верш "Музыка", быў надрукаваны ў паэтычным зборнічку "Рунь веснагоду" (Вільня, 1928). Потым Сергіевіч стаў сталым аўтарам "Шляху моладзі".

Лета 1939 г. карэнным чынам змяніла жыццё маладога паэта. Перад вайной у Польшчы была абвешчаная мабілізацыя, і ён, рэзервіст, быў прызваны ў войска, а праз колькі месяцаў трапіў у палон. У адным з лагераў апынуўся разам з **Міхасём Васільком** і **Янкам Брылём**. Пасля працаваў на тартаку ў нямецкага баўэра ў Баварыі.

У 1940 г. у Берліне быў заснаваны Камітэт беларускай самапомачы, які ў хуткім часе займеў філіі па ўсёй Нямеччыне. Ягонай галоўнай мэтай было апякунства над беларусамі, былымі жаўнерамі польскага войска, якіх немцы вызвалілі з палону. Камітэт узначальваў Мікола Абрамчык. Ён успомніў свайго былога вучня. Сергіевіч пераехаў у Берлін і пачаў працаваць у камітэце самапомачы і беарускай газеце "Раніца".

Прыйшоў 1945 г. Нямеччына капітулявала. На тэрэнах пераможанай краіны знаходзілася блізу 500 тыс. беларусаў. Большай часткай – гастарбайтары, тыя, хто быў на прымусовых працах у Нямеччыне. Частка выязджала ў заходнія раёны Нямеччыны, каб унікнуць савецкай акупацыі, а далей – канцлагераў.

Сергіевіч вярнуўся ў Беларусь. Колькі год адпрацаваў у Ленкаўшчыне настаўнікам. А ў 1946 г. быў арыштаваны органамі бяспекі. Яму прыпомнілі і працу, па іх словах, у "нацыянал-фашысцкім" Беларускім камітэце самапомачы, і друкаванні на старонках "Раніцы" і "Беларускай газэты". Атрымаў па максімуму – 25 год. Пасля амністыі вярнуўся на малую радзіму. Але таўро мінулага не дазволіла займацца "інтэлектуальнай" працай. І да пенсіі Юльян Сергіевіч адпрацаваў калгаснікам у Ленкаўшчыне. Ліставаўся з беларускімі літаратарамі, у прыватнасці, з **Ларысай Геніюш** і **Канстанцыяй Буйло**. Займаўся маляваннем пейзажаў, а таксама размалёўкай насценных кілімаў, якія нават экспанаваліся на рэспубліканскіх мастацкіх выставах.

Памер Юльян Сергіевіч увосень 1976 г. Кажуць, што жонка паставіла на могілках помнічак з надпісам па-беларуску і з'ехала з Ленкаўшчыны.

Вяртанне імя паэта адбылося толькі ў 80-я гады, ды і тое адзінкава. У 1989 г. у Мінску быў выдадзены да 50-годдзя "ўз'яднання" Заходняй Беларусі з БССР зборнік заходнебеларускіх паэтаў "Роспачы і надзеі" – няма, "Росстані волі", дзе былі вершы і Юльяна Сергіевіча.

**Барыс Сачанка** надрукаваў ягоныя вершы разам з вершамі **Васіля Камароўскага**, **Янкі Палоннага**, **Караля Шаняўскага** і інш. у "Полымі" (1992, №9) пад агульнай назвай "Вершы з фашысцкай няволі". А потым паэт быў уключаны ў даведнік "Беларускія пісьменнікі". Прыязна напісаў пра яго ў аповесці "Wilio, w glebokosciach morza" краёвы польскі пісьменнік **Збігнеў Жакевіч**. Прысвяціў частку ўспамінаў **Генадзь Каханоўскі**, які актыўна ліставаўся з ім. Аднак больш-менш значнага нічога няма, толькі аскепкі з біяграфіі харошага чалавека.

**Алег ГАРДЗІЕНКА**

Аўтар дзякуе **Міхасю Казлоўскаму** з Маладзечна за карысныя парады пры напісанні артыкула.

## Жыцьцё

*Трымай нязломаны апор*
*бушуючым вятрам*
*выходзь адважна на прастор*
*пад разгуляны гром!*
*Пасьля ўдараў перуноў*
*нязломны барацьбіт*
*спаткае шчасьце новых днёў*
*і сонечны блакіт.*
*Дык пасьпяшаймася, браты,*
*як час жыцьцё бяжыць –*
*Злучыцца разам у рады*
*З магутным клікам жыць!*
*Агню сусьветная зара*
*Нас будзе гартаваць*
*Ідзе вялікая пара*
*Радзіму здабываць.*
*Дзе сьветлай Праўды*
*вольны сьцяг*
*Над намі зацьвіце –*
*Там сіла нашага жыцьця*
*Магутна ўзрасьце –*
*Тады надыйдзе час вайны*
*Й цьвітучы сьветлы май*
*Як нам абвесьціць у званы*
*Аб волі Родны Край.*

**Юльян Сергіевіч, "Раніца", 14 чэрвеня 1942 г. №29.**

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем з 30-годдзем мамачку **Іну Добрыш**! Жадаем моцнага здароўя, заўжды быць прыгожай і ласкавай.
*Сыны Коля і Арцём.*

*Сям'я Махніцкіх* віншуе чароўную і пяшчотную **Інэсу Сабольку** з днём нараджэння. Жадаем здароўя, душэўнай цеплыні, шчасця ў жыцці!

**Сяргея Пузырова** віншую з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, душэўнай раўнавагі і дабрабыту. *З любоўю Наташа.*

Любімую дачушку **Юлію Ляшок** з 18-годдзем! Жадаем поспехаў у вучобе, кахання, здзяйснення мараў, верных сяброў. *Сям'я Ляшок.*

## ■ ПРОСТА АНЕКДОТ

– Ведаеце, мой муж так прастыў!

– Скажыце яму, каб ён больш піў і адпачываў.

– Ах, доктар, калі гэта дапамагае, я здзіўляюся, як ён увогуле змог прастыць.



Жонку з мужам і маленькім сынам пераходзяць уброд рэчку. Пасярэдзіне, калі вада была па грудзі, жонка схамянулася:

– А дзе наша дзіця?

– Не турбуйся, – адказвае муж, – я яго вяду за руку.



# ЗНАЁМСТВЫ

Стройная інтэлігентная жанчына без дзяцей і жыллёвых праблем пазнаёміцца з мужчынам 30-40 год для стварэння сям'і. Маладзечна-6, п/п МС 0651415.

Жанчына 45/160/60 пазнаёміцца з мужчынам для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п Х-ВН №745342.

Мужчына, 49/178, без шк/зв., жадае пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-3, п/п МС 0400123.

Жанчына без шк/зв., 49/167/82, пазнаёміцца з надзейным мужчынам для сур'ёзных адносін. Маладзечна-4, п/п МС 0217216.

## ■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне, шаноўныя!

У мінулы раз прапаноўвалася адгадаць вось што: у старажытнай Грэцыі перад уваходам на адзін з астравоў стаяла варта. Калі нехта хацеў прайсці, яна пыталася: "Навошта ты ідзеш?". Калі чалавек гаварыў праўду, яго прапускалі. Калі не – адсякалі галаву. Але адзін чалавек адказаў так, што варта не ведала, што з ім рабіць.

Нас цікавілі два пытанні: што сказаў гэты чалавек і ў якім вядомым творы ёсць падобны выпадак.

**Людміла Кендыш** мяркуе, што гэты чалавек сказаў: "Я свой". А твор гэты – "Сын палка". Па версіі **Юрыя Юхневіча**, чалавек адказаў: "Не ведаю сам". Казка – "Ідзі туды, не ведаю куды".

Але ў кіно запрашаем **Юрыя Мінца**, які адказаў правільна. На яго думку, чалавек сказаў: адсячыце мне галаву. І варта не ведала, што з ім рабіць, бо наступае супярэчнасць.

Падобную задачу рашаў адзін з персанажаў рамана "Дон Кіхот" – губернатар вострава Баратарыя Санча Панса. Ён спачатку загадаў разрэзаць чалавека на 2 палавіны. І адну іх прапусціць, а другую – пакараць. Але потым сказаў, каб чалавека адпусцілі, бо, калі трэба выбіраць паміж пакараннем і памілаваннем, то няхай гэта будзе апошняе. Так яго вучыў Дон Кіхот.

Наступнае пытанне. Часцяком бывае, калі чалавек заблудзіцца ў лесе, то ён пачынае хадзіць па крузе. Пытанне: чаму?

**Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 14 лістапада, 17-00) і прыходзьце па запрашальны білет для 2 асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".**

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## ■ ШАШКІ

# Адна партыя ў шашкі

**Пра папулярнасць гэтай гульні сведчаць шматлікія ўпамінанні пра шашкі ў розных творах мастацтва, літаратуры, знаходкі археалогіі з многіх куткоў свету: ад егіпецкіх пірамід, старжытных грэкаў і рымлян, былінных рускіх волатаў і да нашых дзён.**

Вядома, што мудрай народнай гульнёй захапляўся пясняр беларускай паэзіі **Янка Купала**, ёсць успаміны **Максіма Гарэцкага** ў яго "Прапопавым дзённіку" з "Камароўскай хронікі". Але найбольш яскрава раскрытыя перыпетыі барацьбы за шашачнай дошкай у апавяданні "Адна партыя ў шашкі", якую ў 1924 годзе напісаў вядомы беларускі пісьменнік **Міхась Зарэцкі** (сапраўднае прозвішча Міхаіл Яўхімавіч Касянкоў, 1901–1937). У 1936 годзе ён у самым росквіце творчых сіл і таленту быў незаконна арыштаваны і прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Пасмяротна рэабілітаваны.

Справа адбывалася ў гады савецка-польскай вайны 1919–20 гадоў. Чырвонаармейскі атрад, якім камандаваў былы селянін Аснач, пасля трохдзённай асады фальварка, дзе засялі панскія паслугачы, нарэшце затрымаў іх пры спробе прарваццa ў цемры з акружэння. Палонных бандытаў змясцілі пад узмоцненай аховай у адным са свірнаў, а іхняга правадыра ў суправаджэнні двух чырвонаармейцаў Аснач забраў з сабой у хату.

Калі павячэралі, не забыўшыся на ганарлівага, але галоднага паніча, кожны задумаўся пра сваё.

У Аснача з'явілася нейкая спагада да свайго ворага, які цяпер ужо не ўяўляў сабой ніякай небяспекі. Нечакана позірк чырвонага камандзіра спыніўся на шашачнай дошцы, якая ляжала на акне, і ён загарэўся імпэтам згуляць у шашкі. Саміх шашак не было, ды і ахвочых да гульні таксама. Але шашкі для Аснача былі найлепшай уцехай. Ён зірнуў на пана, падумаў, што той гуляць умее, і з ім цікава было б пазмагацца. Але ці згодзіцца ён на гэта?

Аднак паніч даў згоду і пачаў рыхтаваць сабе шашкі з белых кавалачкаў паперы, а Аснач выкарыстаў для гэтага мякіш чорнага хлеба.

Селі гуляць. Напружанасць узнікла з першых ходаў. У хаце ўсталявалася нязвыклая цішыня. За партыяй сачылі нават тыя, хто ў гэтым нічога не разумеў. Знешне спакойны, Аснач гарэў унутраным моцным абурэннем. Мазгі свідравала адна думка: ён не павінен паддацца свайму класаваму ворагу. Яшчэ ніколі ён не гуляў з такім запалам, быццам усёй істотай увайшоў у шашкі, у гэтыя цьмяныя кавалачкі хлеба. Яму здавалася, што пан, пабліскваючы сваімі варожымі вачыма, саманадзейна пасміхаецца з яго. Гэта яшчэ больш нервавала чырвонага камандзіра.

Тым часам на дошцы засталося ўжо па некалькі шашак. Аснач зрабіў вельмі дрэнны, нязручны ход (глядзі дыяграму) – і твар пана зайграў задаволенай, радаснай усмешкай. Ён пачаў хутка рабіць хады, сапернік вымушаны быў адказваць абавязковымі і адзінымі хадамі. Настаў непрыемны фінал. Аснач прайграў, і каму – ворагу. Глыбокая цішыня зрабілася жудаснай і злавеснай. Сапернікі падняліся і глядзелі адзін аднаму ў вочы. Паніч зларадна пасміхнуўся. І здарылася тое, чаго ніхто не чакаў. Аснач выхапіў з кішэні пісталет і застрэліў пана. Такія вось былі тады жыццёвыя сітуацыі і норавы.

А цяпер паспрабуйце ў той пазіцыі знайсці выйгрыш за белых пры іх першым ходзе.




Белыя: дамка f8, пр. e1, f2, f4, g3 (5)

Чорныя: дамка a1, пр. a3, b2, f6 (4)

Таго, хто знойдзе правільную развязку і першы дашле адказ, чакае... (не палохайцеся) прыз – шашачная кніга.

**Праверце рашэнне эцюда А. Шошына, што быў змешчаны ў "РГ" за 19 кастрычніка.**

Да мэты вядзе 1. f2–g3 h2:f4 2. a5–b4 f4–g3 (2... a7–b6 3. b4–d2 f4–g3 4. d2–e3 х.) 3. b4–c5 g3–h2 4. a3–b4 х.

Правільна рашыў гэтае заданне і атрымае прыз студэнт Мінскага медыцынскага інстытута **Барыс Курыловіч**.

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

## ■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



# Клёцкі манныя з сырам і смятанай

**100 г манных круп, 10 г маргарыну, 2 яйкі, 3 г солі, 10 г цукру, 50 г сыру, 370 мл малака з вадой.**

Уліць у кастрюлю малако з вадой, нагрэць да кіпення, дадаць соль, цукар, размяшаць. Не перастаючы памешваць малако, тонкім струменьчыкам усыпаць манныя крупы. Памешваючы знізу ўверх, паменшыць нагрэў, варыць 15–20 хвілін да загусцення. Прыгатаваную вязкую кашу астудзіць да 70–75°С, змяшаць з сырымі яйкамі, надзертым сырам і топленым маргарынам. Атрыманую масу пры дапамозе дзвюх лыжак раздзяляць на клёцкі па 10–15 грамаў. Масу можна сфармаваць у выглядзе рулецікa і раздзяляць на кавалачкі нажом, змочаным вадой. Варыць клёцкі ў падсоленай вадзе на працягу 5–6 хвілін непасрэдна перад падачай на стол. Адкінуць на друшляк, даць вадзе сцячы. Падаваць з маслам, смятанай.

Не дапускайце моцнага кіпення, калі варыце клёцкі. Гатовыя клёцкі ўсплываюць на паверхню. Пры працяглай варцы яны робяцца друзлыя і вадзяністыя.

# Мус з печаных яблыкаў

**0,5 кг кіслых яблыкаў, 3 бялкі сырых яек, 100 г цукру, лімонная цэдра, карыца, ягады з варэння, скрылькі лімона.**

Памытыя яблыкі спячы ў духоўцы, працерці праз друшляк, ахаладзіць. Бялкі ўзбіць у густую пену і, працягваючы бесперапынна ўзбіваць, дадаць цукар, лімонную цэдру, карыцу і пюрэ з яблыкаў. Пышную масу выкласці ў сподачкі, упрыгожыць ягадамі з варэння, скрылькамі лімона.

## ■ ШКОЛА ЖЫЦЦЯ

# Акадэмія жыццёвых хітрасцяў

Гаворацъ, калі муж здраджвае, жонка даведваецца пра гэта апошняя. Муж у аналагічнай сітуацыі часта не дазнаецца ніколі. Мужчыны, наогул, менш уважлівыя да нюансаў. Прызнайцеся, вы наўрад ці звярнулі б увагу на такія дробязі, як:

1. "Нечаканая змена інтарэсаў". Ваша жонка заўсёды была абыякавая да футбола (філатэліі, развядзення кракадзілаў у хатніх умовах), а тут зрабілася спецыялістам у гэтай галіне. Да таго ж, пачала размаўляць пра філасофію і час ад часу цытаваць Шапенгаўэра, хаця да гэтага прызнавала толькі "Муму" і раманы з серыі "Купідон".

2. "Змена густаў". На трэцім годзе сумеснага жыцця яна раптам знайшла, што "SAAB" больш зручны за ваш "Масквіч" і што падцяжкі ўжо даўно выйшлі з моды. Заўважце: яшчэ месяц таму яна думала, што "Сааб" – гэта парода вартавых сабак, а падцяжкі сама падарыла вам на дзень нараджэння.

3. "Змяненне іміджа". Яна раптам падстрыглася, перафарбавалася ў брунетку, села на дыету, захапілася аэробікай, паехала на два памеры і патрацілa ўсе сямейныя зберажэнні на абнаўленне гардэроба.

4. "Раптоўныя прыступы кахання і клопату". Можа, вы ўсё гэта заўважалі і... радаваліся? Нарэшце можна без перашкод глядзець футбол, нарэшце ніхто не піліць! Нарэшце вас ацанілі па заслугах, нарэшце яна пахудзела і папрыгажэла (дзеля вас, зразумела!).

На самой справе падстаў для панікі няма. Пакуль няма. Па-першае, ёсць шанц, што гэта ўсё і сапраўды дзеля вас. Па-другое, усё – "гатоўнасць нумар адзін" – закаханасць. Але, быць можа, хутка...

На сёння гэта ўсё.

Удачы, і не хвалюйцеся дарэмна.

**Сямён БОНДАР.**



## ■ ІМЯНІНЫ

**9 лістапада**

**Праваслаўныя**: Аляксандра, Елізаветы, Капіталіны, Андрэя, Марка, Несцера.

**Каталіцкія**: Тодара, Урсына.

**10 лістапада**

**Праваслаўныя**: Неанілы, Праскоўі, Арсенія, Дзмітрыя, Кір'яка, Максіма, Несцера, Сцяпана.

**Каталіцкія**: Андрэя, Любаміра, Лявона.

**11 лістапада**

**Праваслаўныя**: Ганны, Марыі, Абрама.

**Каталіцкія**: Барталамея, Марціна.

**12 лістапада**

**Праваслаўныя**: Алены, Анастасіі, Зіновіі, Арцёма.

**Каталіцкія**: Рэнаты, Вітольда, Віктара.

**13 лістапада**

**Праваслаўныя**: Нікадзіма, Нарцыса, Спірыдона, Стахія.

**Каталіцкія**: Бенядыкта, Мікалая, Станіслава.

**14 лістапада**

**Праваслаўныя**: Фядоцці, Ульяны, Аверкія, Дзям'яна, Кузьмы, Якава.

**Каталіцкія**: Андрэя, Ваўжынца, Эміля, Юзафа.

**15 лістапада**

**Праваслаўныя**: Афонія, Маркіяна.

**Каталіцкія**: Альберта, Леапольда.

## ■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Колькі каштуе «В лесу родилась ёлочка»?

У канцы васьмідзесятых у маскоўскае агенцтва па аўтарскіх правах прыйшла вельмі пажылая жанчына:

– Скажыце, я чула, што тут можна атрымаць грошы за песню, якую я сачыніла...

– Якую яшчэ песню, бабуля?

– "В лесу родилась ёлочка".

– Бабка, ідзі дадому, не перашкаджай працаваць!

На што бабка дастае дарэвалюцыйны часопіс, дзе апублікаваны верш "Ёлочка" за подпісам пісьменніцы Маі Кудашавай. Праўда, нараўне з усім вядомым тэкстам там была яшчэ страфа пра Хрыста, які прыйдзе на ёлку да ўсіх бедных дзяцей...

Уявіце, у якім становішчы аказаліся работнікі агенцтва. Ім трэба было налічыць аўтару адлічэнні на выкананне "Ёлачкі" на ўсіх ёлках СССР, пачынаючы з 1930 года, калі дазволілі святкаваць ёлку. Усё гэта – з працэнтамі за 50 год. Зразумела, калі налічваць усё па законе, напэўна, усяго бюджэту СССР не хапіла б.

Пажылая жанчына пачала чакаць вялізных, як ёй усе гаварылі, грошай. А іх усё не плацілі. Нарэшце, пасля неадназаразовых скаргаў Кудашавай ва ўсе магчымыя інстанцыі, ёй налічылі... 18 рублёў 34 капейкі.

Затое цяпер "Ёлачка" паўсюль публікуецца з імем аўтара.

**Сямён БОНДАР.**

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 23 | | 12 | 11 | 10 | | 9 | 13 | 8 | 9 | 7 |
| 12 | 10 | 9 | 7 | 9 | 6 | | 5 | 4 | 3 | |
| | 9 | 6 | 9 | 10 | | 9 | 6 | 7 | 9 | |
| 1 | 6 | 4 | 2 | 13 | 9 | | 14 | 9 | 24 | 9 |
| 6 | 9 | 13 | | 9 | 3 | 13 | 9 | 6 | 9 | |
| 9 | 12 | 9 | | | 24 | 11 | 15 | | 14 | 9 |
| 7 | 4 | | 9 | 6 | 16 | 17 | | 14 | | 14 |
| 18 З | 3 Н | 4 О | 12 С | | 3 | 9 | 25 | 9 | | 19 |
| 20 | | 10 | 5 | 12 | 9 | 6 | | 13 | 9 | 24 |
| 25 | 19 | 19 | 3 | 9 | | 13 | 11 | 6 | 12 | 21 |
| 9 | | 6 | 9 | 3 | 26 | 9 | | 16 | | 12 |
| | 6 | 9 | | 5 | | | | 22 | 4 | 24 |

У гэтай крыжаванцы кожная лічба адпавядае якой-небудзь літары. Каб вам было зручней разгадваць галаваломку, у крыжаванку ўжо ўпісана слова ЗНОС.

Калі вы правільна запоўніце сетку крыжаванкі, то зможаце расшыфраваць фразу, якая і з'яўляецца адказам на гэтае заданне.

**Заданне:**

9 18 1 11 13 9 — 7 9 — 14 11 7 6 9 12 22 5

10 6 21 12 24 11 10 13 9

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №44**

**Па гарызанталях:** 1. Мушкецёр. 4. Расаднік. 9. Тоня. 10. Язэп. 11. Лавелас. 12. Арыёза. 14. Капрал. 16. Марка. 18. Анагр. 19. Асіна. 24. Ярлык. 26. Ананас. 28. Лайнер. 29. Пральня. 30. Кран. 31. Стаж. 32. Пралётка. 33. Гісторык.

**Па вертыкалях:** 1. Матрац. 2. Шыншыла. 3. Цітла. 5. Спуск. 6. Нізарал. 7. Капэла. 8. Алегра. 13. Зарніца. 15. Аканіца. 16. Магія. 17. Адсек. 20. Бравада. 21. Слалам. 22. Сенатар. 23. Падкоп. 25. Крыжак. 27. Спрут. 28. Ляпіс.

## Гараскоп 12 – 18 лістапада



**Авен** (21.03–20.04)

Вы нечакана для сябе знойдзеце, што нічога немагчымага не бывае. Верагодна, нейкае паведамленне ці нечаканая сустрэча нагадаюць вам: цуды – плата за вашую працавітасць, шчырасць або проста добры ўчынак. Добры перыяд для творчых людзей і тых, хто мае дачыненне да фінансаў.



**Цялец** (21.04–21.05)

Перыяд будзе запоўнены ўмацаваннем узаемных стасункаў. Чым больш шчыра і добразычліва вы будзеце ставіцца да навакольных, тым ахвотней гэтыя самыя навакольныя будуць сядзейнічаць вашым поспехам.



**Блізняты** (22.05–21.06)

Вам захочацца вярнуць страчаны камфорт, душэўны спакой і здароўе да такой ступені, што вы неадкладна зоймецеся аздараўленнем усяго, што вакол вас. Пастарайцеся папрасіць прабачэння ва ўсіх пакрыўджаных вамі і ўладзіць застарэлыя канфлікты. Ва ўсялякім выпадку, у гэтыя дні вам ахвотна пойдуць насустрач.



**Рак** (22.06–23.07)

Перыяд можна назваць спрыяльным ва ўсім. Дні, што наперадзе, прымусяць вас паверыць ва ўласныя сілы і дапамогуць у рэалізацыі ўсяго, што вы лічыце карысным і правільным, важным і неабходным для аздаблення свайго жыцця.



**Леў** (24.07–23.08)

У гэты перыяд вы праявіце сябе як сапраўдны "кармілец", вашыя таленты і ўменне клапаціцца пра больш слабых расцвітуць невымерна. У выніку штодзённыя зносіны з блізкімі ператворацца для вас у сапраўднае працяглае сямейнае свята.



**Дзева** (24.08–23.09)

Перыяд будзе падобны на экзамен і прысвечаны рашэнню тых пытанняў, без якіх далейшае прасоўванне ні па службе, ні ў будаўніцтве сямейных і асабістых стасункаў немагчымае. Магчымая камандзіроўка за межы краіны.



**Шалі** (24.09–23.10)

Усе пытанні, якія будуць тычыцца вашага фінансавага дабрабыту, вы зможаце вырашаць настолькі лёгка і паспяхова, што гэта можа перарасці ў... прывычку. У асабістых стасунках можа быць збой з-за вашай легкадумнасці.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

У будучы перыяд вы будзеце гаспадаром становішча. Толькі пастарайцеся быць дыпламатам. Вашая настойлівасць можа прынесці адчувальны плён, але не лічыце сябе адзіным гаспадаром становішча: вы выдатны Садоўнік, але не Стваральнік.



**Стралец** (23.11–21.12)

Перыяд будзе цалкам прысвечаны працягу ўнутранай работы, якая будзе весціся ў асабліва добрых умовах: магчымая перабудова ўнутраных арыенціраў. Верагодна, вам захочацца пашырыць сферу сваёй дзейнасці, і гэтыя дні выдатна для гэтага падыходзяць.



**Казярог** (22.12–20.01)

У гэтыя дні трэба займацца "камандным будаўніцтвам", вы ўжо дастаткова "выраслі" для паўнацэннага лідэрства. Аднак памятайце, што сілавыя прыёмы – не ваш метад, дзейнічайце з разлікам, разумна. Раскрыецца творчы патэнцыял Казярогаў-адзіночак, не прымусяць сябе чакаць і сексуальныя прыгоды.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Работа, работа і яшчэ раз работа. Усе дні прыдатныя для прасоўвання і самапрэзентацый. Гэта адзін з лепшых перыядаў за год для гандлю і рэалізацыі тавару вытворцаў. Паездкі будуць лёгкія, спадарожнікі – вясёлыя, вынікі – выдатныя.



**Рыбы** (20.02–20.03)

У гэты перыяд вы адчуеце сябе першапраходцам, таму што, па-першае, на вас зваліцца гара новых уражанняў, а па-другое, вы іх надзвычай радасна ўспрымеце. Вы можаце пускацца ў нязведанае плаванне, і пакуль вы будзеце веславаць, поспех забяспечаны. Толькі не спыняйцеся працаваць рукамі – гэта не самы дрэнны інструмент.

## ■ ПРОСТА АНЕКДОТ

– Кожны з нас павінен унесці свой уклад у сямейны бюджэт, – гаворыць жонка мужу. Зробім так: ты кідаеш піць, а я адвучу цябе курыць.



– Як пад'ехаць да непрыступнай жанчыны?
– На ўласным "Мерседэсе".



Маці гаворыць дачцэ:
– Гэты твой паклоннік мне так надакучыў, што я з радасцю стала б яго цёшчай.






**БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА**
**Новыя хвалі і частоты ад 28 кастрычніка 2001**

| Час | K/HZ | Хвалі |
|---|---|---|
| 18:00 – 20:00 | 612<br>7190<br>9615<br>15460 | <br>41<br>31<br>19 |
| 20:00 – 22:00 | 612<br>6150<br>7280<br>9835 | <br>49<br>41<br>31 |
| 22:00 – 24:00 | 612<br>1188<br>6010, 6170<br>9845 | <br><br>49<br>31 |
| 06:00 – 08:00 | 612<br>1188<br>6140<br>9635, 9835 | <br><br>49<br>31 |

Беларусь, Менск, 220005, п/с 111
RFE/RL, b 3, Vinohradska 1, Prana 110 00, CZ
Інтэрнэт www.svaboda@rferl.org
**Настройцеся на свабоду**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8190 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№45 (342) 9.11.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 8.11.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»